 

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

| № 8 (263) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 25 ЛЮТАГА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР. |
| --- | --- | --- | --- |

## СЯБРЫ САВЕЦКАЙ ПЕСНІ


Аляксандр Каліноўскі

11 лютага канцэртная зала Ваяводскага праўлення Таварыства польска - савецкай дружбы не магла змясціць усіх, якія хацелі прысутнічаць на ваяводскім фінале конкурсу на найлепшае выкананне савецкай песні.

Цесна было не толькі ў глядзельнай зале. Часам і сцэна запаўнялася да апошняга месца юнымі выканаўцамі «Брадзягі», «Далеко, далеко» ці «Вечару на рэйдзе». Гэта выступалі школьныя хоры; два з іх — са школы ў Замброве і школы № 22 у Беластоку — лічылі некалькі дзесяткаў асоб.

Хор школы №22 у Беластоку


8 малых вакальных калектываў паланіла гледачоў не толькі спевам. але таксама акампаніяментам, колерам убораў, як, напрыклад, вакальны калектыў з Курашава, які сходзіў са сцэны пад бурныя апладысменты і просьбы аб біс.

Час ад часу месца калектываў займалі маленькія постаці салістаў. Тады — знаёмыя мелодыі ў дрыжачым, дзіцячым голасе набіралі асаблівага выражэння.

Нялёгкае заданне мела журы конкурсу, якое пад кіраўніцтвам Марыі Кульчыцкай, старшыні Камісіі культуры пры ТПСД павінна была падвесці вынікі.

Цяжка было зрабіць баланс дзіцячага энтузіязму ў знаёмстве і любві савецкай песні, мелагыйнай, шырокай як стэп, чыстай як душа яе творцаў — савецкіх народаў.

У групе хораў I месца заняў хор са школы № 22 у Беластоку (дырыжор Людміла Панько). II месца — хор са школы ў Граеве.

У групе малых вакальных калектываў I месца заняў дуэт са школы ў Алецку Малым, а II — трыо са школы ў Алецку Вялікім.

У групе салістаў з падставовых школ I месца заняла 12-гадовая вучаніца з Цеханоўца Эльжуня Пухач («Вечар на рэйдзе»), II — Малгося Недзведзкая з Высокага Мазавецкага.

У групе салістаў сярэдніх школ I месца атрымала Анна Чэмель (Школа адзежовая ў Беластоку), II — Збігнеў Ткачук (II Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку).

У групе дарослых найлепшымі былі Люба Томчык і Станіслава Піўко. А з мужчын — Аляксандр Каліноўскі, які таксама з прыроднай красамоўнасцю аб'яўляў малады адэптаў эстрады, і Гжэгож Панькоўскі.

Спецыяльныя ўзнагароды атрымалі жаночы квартэт з Курашава і трыо з Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Ганёндзу

На шмат цёплых слоў заслужыла Ваяводскае праўленне ТПСД за арганізацыю гэтага мерапрыемства, а Кураторыум і прафсаюзы за дапамогу ва устанаўленні ўзнагарод. Дасягненні маладых сяброў савецкай песні з'яўляюцца таксама дасягненнямі і настаўнікаў, якія ўлажылі шмат працы ў падрыхтоўку калектываў. Хоць шмат песняў былі зацяжкія на магчымасці дзяцей — трэба было выбраць дзіцячыя песні, у крайнім выпадку для тых наймалодшых, цэласць аднак выпала надзвычай прыемна.

**В. МЛЫНЬЧЫК**

Здымкі аўтара і Г. Рагазінскага


Эльжуня Пухач


Калектыў з Курашава


Малгося Недзведзкая

Люба Томчык

## У НАШАЙ ГАСПОДЗЕ

Мы звярнуліся да аддзела гандлю прэзідыум ВРН у Беластоку і гандлёвага кантролю, каб зрабіць супольны рэйд па вясковых гасподах. І вось наша экіпа знаходзіцца ў камандзіроўцы.

У Беластоцкім ваяводстве зараз існуе 104 вясковыя «Бары» і «Гасподы», а нашыя, так сказаць, страўнікавыя магчымасці ўсё ж такі агранічаныя, дык не можам гэтых усіх месц наведаць. Тады агранічымся да некаторых.

### НА НАШАЙ ТРАСЕ ЗАБЛУДАЎ

Несумненна многія нашыя чытачы памятаюць былую Заблудаўскую гарэлачную «кнайпку», дзе апрача гарэлкі, «духмяных» селядцоў і тухлых яек, нічога не можна было падарожніку атрымаць. Такая «слава» Заблудаўскай гасподы перайшла ўжо ва ўспамін. Дзякуючы намаганням мясцовага насельніцтва і клопатам Заблудаўскага ГС, у Заблудаве пабудавана новую гасподу. У сучаснай Заблудаўскай гасподзе сапраўды ўсё па-новаму. Чыстата тут відавочна не толькі на прасторных залах сталовай. Яе бачыцца і ў кухні, і ў кладоўках, і нават там, дзе мыецца пасуду і чысціцца агародніну і бульбу. Буфет гасподы багаты разнароднымі свежымі ды апетычнымі закускамі. Меню гасподы даволі разнастайнае. Тут нават можна выпіць шклянку «чорнай», якой не сароміліся б беластоцкія кафейныя. Кантрастам у Заблудаўскай ГС ёсць яшчэ некалькі пастаянных наведвальнікаў былой «кнайпкі». Яны, як звычай, таўкуцца пры буфеце, ледзь на нагах утрымоўваючыся, адначасова псуючы пачуццё эстэтычнай задаволенасці прысутным. На нашу думку каральная калегія магла б іх давесці да парадку. Але і абслуга гасподы магла б ім адказаць продажу алкаголю. Ну і яшчэ адно пажаданне. Ці нельга было б рэманентаў, якія часта праводзяцца ўдзень (господа тады замкнутая), рабіць вечарам, пасля закрыцця гасподы?

(Працяг на стар. 4)

 

 

# ЛІСТ З МІКУЛІЧ

Дарагая «Ніва»

Аб іншых вёсках многа пішуць і часам цікава нават, але пра Мікулічы ...ціха, глуха, як макам засеяў. Раззлаваўся тады я, дарагая «Ніва», і вырашыў сам напісаць.

Зласлівыя людзі з суседніх вёсак аб нашай вёсцы кажуць так: «У Мікуліч — адна хата, а сем вуліц». Але гэта няпраўда. Мікулічы — вёска не малая, не вялікая; жыве тут 60 з лішнім гаспадароў...

Каб да яе ад Вас даехаць, трэба сесці на цягнік Беласток — Седльцы і выйсці на першым прыпынку за Чаромухаю. Гэта станцыя «Баравікі» — тая самая, аб якой ужо два разы «Ніва» пісала, што там стаіць дзіравы, напалавіну разобраны, стары вагон замест пачакальні, і людзі не маюць дзе пагрэцца. Думаю, што чыгуначныя начальнікі напэўна «Нівы» не чытаюць, бо нічога дагэтуль не зрабілі, а прамерзшыя пасажыры мала-памалу далей гэтую «станцыю» на распалку ломяць. Дошкі смалой прасякнутыя, гараць, аж сэрцу міла.

Вось ад гэтых Баравікоў трэ' ісці ўправа, аж дойдзеце да царквы ў Рагачах. Побач царквы знаходзіцца школа, а ля школы расце малады дуб (дымак 1). Чаму аб ім успамінаю? Бо гэта ж надта цікавае дрэўца! Кругом снег, мароз за вушы шчыпае, усе іншыя дрэвы голыя, як дзіцё, калі народзіцца, а ён — гэты дуб — спакойна, быццам на злосць прыродзе, шалясціць буйным, пажоўклым лісцем. Старэйшыя людзі гавораць у нас, што калі гэты дуб не траціць лісця — зіма будзе суровая і доўгая. Як бачым, пакуль што іхнія прадбачванні не спраўджаюцца. Кожны можа памыліцца.

Ад рагачоўскай школы (аб якой я напішу наступным разам, бо там таксама дзеюцца вельмі цікавыя справы) да Мікуліч ужо каменем дакінеш, асабліва калі кідаў бы наш вясковы найбольшы сілач, Гаўрык.





Такім чынам апынуліся мы ў маёй роднай вёсцы. Вунь там стаіць старэнькая хатка (здымак — 2). Амаль такую ж самую, дарагая «Ніва», бачыў я на Тваіх старонках, нібы гэта забытковае старое будаўніцтва, якое неабходна захаваць для вывучэння будучым пакаленням этнаграфіі і матэрыяльнай культуры беларускага люду. Мала я зразумеў з гэтых слоў, але так сабе мяркую, што мо' і нашая мікуліцкая хатка — таксама гэты забытак і пры Тваёй, «Ніва», дапамозе недзе ў Музей трапіць. За добрыя грошы гаспадар ахвотна яе адпусціў бы. Не, не таму, што не цэніць культуры, але яму патрэбная новая, незабытковая хата, у якой выгадней жылося б. А для нашай вёскі, то ніякая страта. У нас многа такіх хат! Хаця б, калі ласка, нашая вясковая святліца.

Яна засталася па селяніне, які пасля вайны выехаў у Савецкі Саюз. Хлопцы з нашай вёскі сабраліся, разбілі ўнутраныя сцены, падрамантавалі што трэба было, аклеілі шпалерам, пад сценкамі збілі доўгія лаўкі і грамадскім чынам (як гэта зараз называюць) атрымалі цалкам прыемнае памяшканне для розных сваіх гульняў.

А што, ці ж абавязкова трэба палацаў, каб гуляць культурна? У нашай хатцы - святліцы таксама рэдка калі бываюць бойкі, а калі ўзнікаюць — найчасцей не з нашай віны. Гэта з суседніх вёсак, асабліва з Вулькі Нурэцкай, прыходзяць хуліганы і намагаюцца ў нас на танцах наводзіць свае парадкі. Зараз з аказіі якогасьці свята, вяселля ці хрэсьбінаў, наша святліца аж дрыжыць ад музыкі і танцаў.

А моладзь у нас дружная. Маем і гурток БГКТ, і ССМ. Абедзве гэтыя



арганізацыі, хаця маюць розныя статуты, сужываюць у нас, як сіямскія браты. Усе члены БГКТ з'яўляюцца адначасова членамі ССМ і наадварот, ды на практыцы робяць тое самае.

Возьмем для прыкладу яшчэ раз нашую святліцу. Перад новым годам трэба было шмат што падрамантаваць у ёй. Сышліся хлопцы, паклікалі дзяўчат, абгледзелі, абмеркавалі, скінулі па некалькі злотых, закупілі неабходныя матэрыялы і прыступілі да працы. Такім чынам абклеілі мы сцены новым шпалерам, уставілі выбітыя вокны (у найлепшым стадзе знойдзецца паршывая авечка), раскінулі цагляную печку, якая ўжо валілася, а на яе месца ўставілі жалезную, што далі нам з павета, пераложылі падлогу, зрабілі месца на разбіральню. Хацелі таксама сарваць салому і пакрыць чарапіцай нашу святліцу. Аказалася гэта немагчыма, бо за слабы дах і не вытрымаў бы цяжару чарапіцы.

Зараз у нашай святліцы, хаця яна старэнькая, утульна, як у роднай хаце. Ключ ад святліцы знаходзіцца ў старшыні гуртка ССМ, сябры Мікалая Касьянюка (здымак — 3). Ён таксама перахоўвае ў сябе шашкі і шахматы, якія атрымалі мы ад Павятовага праўлення ССМ у Сямяцічах, як узнагароду за дбайныя адносіны... менавіта да нашай святліцы.

Тым разам, дарагая «Ніва», было б усё, але нас, мікулічанцаў, мучыць яшчэ адна змора — пакража лесу. Сяляне трох суседніх вёсак — Мікуліч, Рагач і Мядзвежык — амаль сто год таму купілі ад мясцовага памешчыка каля тысячы гектараў дрымучага лесу. Зараз з гэтага лесу астаўся толькі хмызняк. Пакража асабліва насілілася за апошнія 10 год. Да нашага лесу прыязджаюць людзі з вёсак за 10 кіламетраў. А ўсё таму, што людзі чамусьці не могуць дагаварыцца і ўстанавіць свайго лесніка.

Ну, а цяпер ужо ўсё. Аставайся здарова, дарагая «Ніва» і чакай наступнага майго лісту.

Ваш карэспандэнт
**Мікола**
Фота аўтара

## Працавіты сезон Плёскаўскага гуртка

На працягу няпоўнага месяца (ад паловы студзеня да паловы лютага) Плёскаўскі самадзейны мастацкі гурток даў 4 выступленні ў чатырох розных вёсках. Акрамя сваёй вёскі, пабываў ён і ў Кожыне, Хрbody балах, Райску. Плёскаўскія артысты ездзілі ў гэтыя вёскі фурманкамі. Прымалі іх усюды радасна. У Райску, напрыклад, моладзь папрасіла Плёскаўцаў застацца крыху пасля выступлення, патанцаваць супольна, тым больш, што адзін з Плёскаўскіх самадзейнікаў з'яўляецца адначасова музыкантам. Плёскаўцы засталіся, танцавалі, а дамоў вярталіся а 3-ай гадзіне ў ночы. Райск ад Плёскаў ляжыць у 10-ці кіламетрах.

Снег мяце, на свеце бура, але конь бяжыць шпарка, і весела маладым, таму што маладыя і таму што вось яшчэ адзін поспех запісан на ўласнае конта.

Зараз Плёскаўскі гурток збіраецца наведаць Войшкі, куды яго сардэчна запрашалі.

Акрамя таго рыхтуецца да турніра мастацкіх гурткоў на «Кубак Нівы».

Наступнай сур'ёзнай пазіцыяй, за якую возьмуцца Плёскаўскія самадзейнікі, будзе бадай п'еса «Мікітаў лапаць».

**вл.**

# У НАШАЙ

працяг са стар. 1

### У ОРЛІ ПРАПІЛІ ПАЎМІЛЬЁНА

Парадак і чыстату можна ўтрымоўваць не толькі ў новым аб'екце. Гаспода ў Орлі змяшчаецца ў старым і вельмі цесным будынку. Нягледзячы на гэта, наша экіпа была сапраўды здзіўлена існуючым тут парадкам. Абед у Орлі мы з'елі са смакам. Людзі, якія тут часцей ядзяць, таксама гавораць аб смачнай ежы ў гэтай гасподзе.

Кіраўнічка гасподы — Вара Сушч, ужо шэсць год працуе на гэтай пасадзе.

— Ці гаспода працуе рэнтабельна? — пытаем.

— Так, таму што ў нас даволі вялікія абароты.

— Прыкладна якія?

— У мінулым годзе агульныя абароты склалі 1 мільён 62 тысячы злотых. У гэтым ліку ўласнай прадукцыі было на суму 109.900 злотых.

— А якую суму выдалі людзі на алкаголь у вашай гасподзе?

— Калі ўлічыць да алкаголю віно і піва, дык за мінулы год выдалі 595.466 злотых.

— Звыш паўмільёна злотых за адзін год. Здарова!

— А як выглядае ў вас справа рацыянальнага харчавання?

— Інструкцыю атрымала ў гэтай справе, — гаворыць кіраўнічка з выразнай неахвотай, — але...

Вось, вось, гэтае але. Працаўнікі гасподы маглі б шмат зрабіць у напрамку папулярызацыі рацыянальнага харчавання. Але што ж, калі самі, на чале з кіраўнічкай, не маюць ніякай падрыхтоўкі ў гэтай справе. Таму, хоць у Орлі абеды апетычныя, але меню вельмі скупое. Пераважна катлеты, усё мясное. Салатак, багата вітамінаваных дадаткаў з агародніны і другіх ярскіх страў тут не спадзявайся, таму што ніхто іх не ўмее рыхтаваць, і што горшае, не бачыць патрэбы іх падрыхтоўкі.

### КІРАЎНІЧКА ПРЫГОЖАЯ, АЛЕ...

На нашым шляху Белавежа. Яна нават зімой ажыўлена. Сюды прыязджаюць сотні турыстаў не толькі з краіны, але і з-за граніцы. Чароўная пушча прыцягвае да сябе наведвальнікаў. Але нягледзячы на ўсе яе цікаўнасці страўнік дапамінаецца свайго. Што ж можа падаць прагаладаўшымся турыстам, ды не толькі ім, Белавежская гаспода.

Маладзенькая кіраўнічка гасподы — Станіслава Клім ніяк не можа схаваць пад вонкавай усмешкай свайго хвалявання. Сапраўды візіт нашай экіпы быў для яе немалой нечаканасцю. Не падрыхтаваная была да яго маладая кіраўнічка. Аб гэтым сведчаць мяса, якое валяецца ў бруднай, не прыкрытай місцы на падлозе ў сенцах. У кладоўцы, дзе павінна перахоўвацца мяса, стаіць рота бутэлек па гарэлцы. Адкуль яны тут узяліся?! Апрача гэтага асабістая вопратка, якая павінна знаходзіцца ў аддзельнай шафе — вісіць у... змывальні пасуды. Брудна, неахайна, аж непрыемна чалавеку. Які ж кантраст у параўнанні з маладзенькай, чысценька апранутай кіраўнічкай.

Але гэта ўсё яшчэ нічога ў параўнанні з тым, што знаходзіцца ў буфеце гасподы, што прадаецца людзям.

Увагу нашу прыцягваюць шэра-зялёнага колеру піражкі. Просім кіраўнічку падаць нам іх. Робіць гэта з выразнай неахвотай. Гэта неахвота зусім абгрунтавана, зважыўшы, што ад піражкоў здалёк заносіць гніллю.

— І вы іх падаеце людзям? — пытаем.

— А што ж з імі рабіць? — здзіўляецца кіраўнічка.

— А ну, паспрабуйце, — прапануе ёй нехта.

Кіраўнічка кроіць нажом піражок, бярэ на вілку і, паднёсшы да губоў, адварочвае галаву.

— Не магу, — прызнаецца, каўкаючы сліну.

— А людзі могуць!? Ці ж яны іншыя ад вас? Гэта ж атрута, вы такім чынам можаце поў-Белавежы вытруціць, — папракае нехта кіраўнічку.

У час нашай, не зусім прыемнай, гутаркі з кіраўнічкай заходзяць у гасподу першы і другі старшыня Белавежскай ГС.

Старшыні па справах гандлю — Міхасю Смактуновічу прапануем паспрабаваць буфетных катлет. Гэта ж самае, што і з кіраўнічкай. Адрэзаў кусочак катлеты, паднёс да губ і, скрывіўшыся, адвярнуў галаву.

Старшыні здзіўляюцца такім станам рэчы. Аднак, мабыць, не зусім шчырае гэта здзіўленне. Праўленне ГС змяшчаецца тут над гасподай. Ці ж праўленне не можа ведаць таго, што дзеецца ў гасподзе?

Варта яшчэ сказаць, што кіраўнічка гасподы кваліфікаваная. Яна нядаўна закончыла Беластоцкі гастранамічны тэхнікум.

Якое ж уражанне аб Белавежы вынеслі б замежныя турысты, калі б ім давялося паспрабаваць гэтай ежы?!

### СТАРШЫНЯ СПЯШАЕЦЦА

З Белавежы кіруемся ў Нарву. У нараўскай гасподзе як і заўсёды мнагалюдна. Нікога не здзіўляе, што мы праходзім на кухню. Застаем тут кіраўнічку гасподы — Аляксандру Гуралеўскую, кухарку



 

